# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (281) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 17 ЛІПЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




СЛАНЕЧНІК
фота: Г. Рагазінскі

## Пастановы вялікай важнасці

Цэнтральны камітэт на сваім чарговым пленарным пасяджэнні разгледзіў толькі адну справу — умацаванне і развіццё мясцовых рад нарадовых. Новыя напрамкі развіцця рад нарадовых выцікаюць не толькі з колькасці будучых новых правоў, але і з больцых патрэб нашага грамадскага і гаспадарчага жыцця.

Адчуваецца вялікую патрэбу ўдасканалення форм каардынацыі гаспадаркі, якая ў нас становіцца больш сучаснай. Апошнія гады прынеслі сур'ёзны ўзрост ролі павятовых рад нарадовых. Ужо зараз павятовым радам падлягае 68 прац. прадпрыемстваў дзяржаўнага мясцовага промысла і яны кіруюць сельскай гаспадаркаю на сваёй тэрыторыі.

Ажыццяўляючы пастановы нашай партыі адносна дальнейшага развіцця, рады нарадовыя стануцца асноўным звяном у кіраванні мясцовай гаспадаркай і яе планавання. Гэтаму працэсу будзе суправаджаць пашырэнне даходаў уласных павятовых бюджэтаў, пераказанне шэрагу культурных абсталяванняў, права вырашэння лакалізацыі інвестыцыі, права ўтварэння ўласных інвестыцыйных праўленняў там, дзе знаходзяцца вялікія будовы, права аб вырашэнні ў развіцці культуры, школьніцтва і г. д.

Змены ў правілах і апрацоўцы бюджэту, удзелу ў падатках ад абароту, у падатку ад зарплаты, а таксама ў даходах некаторых цэнтральных прадпрыемстваў больш цесна звяжа раду нарадовую з усёй павятовай гаспадаркай. (А гэтых правоў да гэтае пары не мелі павятовыя рады нарадовыя).

Сярод тэрміновых спраў, якімі рады нарадовыя павінны адразу заняцца, гэта ўпарадкаванне жыллёвай гаспадаркі. Важнае значэнне будуць мець усе мерапрыемствы, якія

(Працяг на стар. 4)



Рэфлексіі над сучаснасцю вёскі

## ЗБУНТАВАНАЯ

Вось прайшла яна ў святочны дзень праз вёску: вясёлая, бадзёрая, бесклапотная, поўная энергіі і жыцця, якая непакоіць сваёй прыгажосцю і фрывольнасцю, адвагаю і какетлівасцю. Быццам прывід зла пранёсся па вуліцы, выклікаючы нахальныя, цікаўныя погляды мужчын і поўныя пагарды і злосці позіркі цятуль.

— Не магу глядзець на гэтае чупірадла. Намалюецца, валасы кучма, і ходзіць быццам індзюк па вуліцы, думае, што гэта так хораша.

— Ой, кумо, вы не бачылі, што было ў прошлую нядзелю, нават пазуры панамалёўвала, села каля хаты і папяросы жарыць, як мужчына: як свет светам не было чагосьці такога, цьфу! Адна Садома і Гамора.

— А як убачыць хлопца, то толькі зубы скаліць.

— О, гэта ж прыязджае адзін што суботы, там п'е і спіць, распуста і больш ніц.

— Калісь унадзілася да маёй прыходзіць, то я мусіла выганяць яе. А што ж. Па такой усяго можна спадзявацца. Бога не прызнае, людзей не баіцца, прыгразіць няма каму і расце невядома што.

Цёткі шэпчуць між сабой, а яна і не заўважае гэтага, нясецца далей па вуліцы, у руках і жэстах падкрэсліваючы пагарду ўсяму гэтаму.

Збунтаваная — яе прывід нясецца над нашай вёскай, зганяючы многім сон з вачэй.

Як увасабленне зла яна можа пераходзіць метамарфозы, прымаць постаці раскошнай зводлівай русалкі, патульнай «кошкі», дэмана зла і грознага асілка.

Яе сталая рыса: бунт супраць збітым, агульнапрынятым формам сялянскага быту, загарантаваных традыцыяй, рэлігіяй, ахапляючых абрады, погляды, грамадскія суадносіны сялян.

Цяжка адказацца ад спробы раскрыцця механізму ўзнікнення гэтага бунту. Маладая дзяўчына расце і выхоўваецца ў цеснаабумоўленых абставінах: мама, тата некалькі цётак ці бабуль, суседзі, вёска. Усе тут знаюцца навылет адзін на аднаго мае пасрэдны ці беспасрэдны уплыў. Іх спалучаюць менш ці больш цесныя сувязі. Яны тут маюць прыблізна аднолькавыя погляды на жыццё, на свет, на тое што можна, а чаго нельга рабіць. Не тут месца аналізаваць гэтыя погляды. Адзначу толькі, што погляды некаторых вясковых асяроддзяў бываюць яшчэ вельмі суровыя і цягасныя для маладога чалавека: нельга хадзіць на кінафільмы, асабліва ў пост, панавейшаму прычэсвацца і апранацца, займацца спортам і г. д.

(Працяг на стар. 5)

ПА ЛЁГКІМ ЗЫБЕ

 

# МАТАЦЫКЛАМ ДА СВЯТОГА



У пакой рэдакцыі раптам убягае задыханы Генік, наш рэпарцёр, і адразу з парога крычыць:

— Чытаў апошні нумар «Газеты Беластоцкай»?

— Чытаў.

— А чарговы рэпартаж з цыкла «Шукаем скарбаў»?

— Чытаў. Рэдактары «Магазіну», калегі Сверад і Красько «шукаюць» у ім залатую кабылу.

— Бачыш, а што будзе, як знойдуць?

— Як знойдуць? Мяркую, што пастараюцца яе пераўтварыць у грошы, а грошы прызначаць на нейкія высокія мэты. Напрыклад, закупяць абсталяванне для нашых святліц, а можа пабудуюць у Беластоку Палац Культуры і Навукі імя «Шпэрача».

— Ты б толькі смяяўся, — з горыччу ў голасе перабіў мае разважанні Генік, — а справа сур'ёзная. Чаму яны павінны знайсці залатую кабылу, а не мы?!

— Сапраўды, чаму яны, а не мы?!

І так узнікла думка «выправы» ў пошуках легендарных скарбаў, схаваных у зямлі Беластоцкай.

Пасля таго, як мы закупілі патрэбнае снаражэнне, якое складалася з 30 м лёскі з трохзубым кручком на канцы і некалькі батарэек для ліхтарыка, выбраліся, пабачыўшай свет ВФМ-кай, на пошукі скарбу.

Свае замеры мы трымалі ў глыбокай таямніцы ад калегаў з «Газеты Беластоцкай», з зусім зразумелых прычын.

Хутка мы пакінулі за сабой Беласток і накіраваліся гладкай, як стол, шашой у бок Кнышына. На 12-тым км. за Беластокам з правага боку бліснулі на фоне зялёнага лесу чырвоныя муры будучай Беластоцкай тэлевізіі. Ужо амаль перад Кнышычам мінулі мы з левага боку шашы узгорак, на якім стаяў замак апошняга з роду ягелонаў караля Аўгуста. На «коціх ілбах» Кнышына прыйшлося ехаць «трушком», бо наш спрацаваны «румак» пачаў чыхаць і задыхацца, як старая кляча, якая два дні таму ачнулася ад сапу.

Нарэшце мы мінулі Кнышын і зноў выехалі на добрую шашу і за нейкі час дабраліся да Ясяноўкі. Праехалі міма даўнейшага палаца графа Валовіча, дзе зараз месціцца школа і накіраваліся на ўсход Сакольшчыны. За Ясяноўкай кінулі мы злы позірк у бок Крукоўшчыны, дзе на гарызонце чарнеў узгорак, пакрыты дрэвамі, дзе быццам бы схавана залатая кабыла, якую шукалі без поспеху калегі з «Беластоцкай».

— Аднак не знайшлі! — пацвердзілі мы разам з задаваленнем.

Ледзь перабраліся мы праз раскопаную дарогу,

(Працяг на стар. 4)

**Фальклор Беласточчыны**

## ПРА БЕДНАГА ШАЎЦА І ПРАГНАГА КРАМНІКА

(казка)

У адным мястэчку жылі два суседзі. Адзін быў багаты і меў краму, дзе смажыў і прадаваў рыбу. Жылося яму добра, але быў ён вельмі скупы. Другі быў бедным шаўцом. І хоць працаваў ад ранку да ночы, не меў грошай нават на кавалачак рыбы. А смажаную рыбу ён вельмі любіў.

Калі беднаму шаўцу ўнемагату хацелася смажанай рыбы, дык ішоў ён да багатага крамніка нібыта пагутарыць пра суседскія справы. Шавец жа гаварыў ды нюхаў пах смажанай рыбы, якую вельмі любіў. Праўда што і не было аб чым гаварыць беднаму з багатым, але шавец да крамніка штодня заходзіў.

Багаты скнара хутка здагадаўся, што бедны шавец заходзіць у яго краму рыбны пах нюхаць. Зашчымела яго скупое сэрца. Пайшоў ён к шаўцу і кажа:

— Заплаці мне за тое, што нюхаў маю рыбу!..

Бедны шавец падумаў ды ўкінуў у бляшаны кубак пару манет і пачаў трасці кубкам. Патросшы трохі, паставіў кубак на стол ды кажа крамніку:

— Ну, вось мы і квіта.

Багаты крамнік са злосцю закрычаў:

— Як то квіта? А дзе грошы, што маеш мне плаціць?

Бедны шавец усміхнуўся і кажа:

— Калі твае вуха менш чула звону манет, як мой нос паху рыбы, я магу яшчэ табе кубкам патрэсці.

Так і пайшоў прагны крамнік ні з чым ад беднага шаўца.

Апрацаваў А. Чабор

## ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



БРАМА

Такія брамы спатыкаем на кожным панадворку ў вёсцы Сток, Сакольскага павета.

фота Г. Рагазінскі

мачэнка. Каб трус не паказаў немцам дарогу да стаянкі партызан, Мінай загадаў неадкладна змяніць месца. Праз гадзіну партызаны апынуліся ў вялікім сасновым лесе і тут разбілі свае шалашы.

У той жа дзень партызаны вырашылі для лепшага манеўрыравання раздзяліць атрад на дзве групы. Адна будзе кантраляваць Невельскую дарогу, а другая, на чале з Мінаем, пойдзе пад Цімохі для наладжання першай засады.

Раніцай партызаны адзін за адным прабіраліся па вузкай лясной трапінцы. Трапінка вяла да ракі Тураўкі, за якою цягнецца Суражскі тракт. Туды і вёў Мінай свой атрад.

Раптам камандзір, які ішоў наперадзе, прыгнуўся і адступіў за корч.

— Лягай!

Загад быў такі рэзкі, што ўсе байцы тут жа выканалі яго. А калі зразумелі, ў чым справа, у шматлікіх хутка забілася сэрца: за карчамі, метрах у пяцідзесяці, купаліся гітлераўцы.

Сціскаючы вінтоўку, Мінай пера-

22

водзіў позірк з аднаго фашыста на другога. Вось трое голых салдат падплылі да блізкага берага. Адзін з іх з мокрымі валасамі, якія прыліплі да высокага ілба, схапіўся за корч і, барабанячы нагамі зарагатаў. Другі, чырванатвары, схапіў яго за нагу і пацягнуў на дно.

Ля супрацьлеглага берага, на плыткім месцы, таўклося чалавек сорак. Чысцілі зубы, мылі галовы, нуркавалі. Яшчэ больш немцаў сядзела на краю водшыба. Сёй-той з іх галіўся, і сонца ўспыхівала на маленькіх кішанковых люстэрках.

Воддаль на паляне, стаялі доўгія, вымаляваныя ў зялёны колер фурманкі і абклеяная плакатамі агітмашына. Навокал іх таксама сядзелі і расхаджвалі салдаты ў ненавісных зялёных мундзірах. З агітмашыны чуліся гукі танга.

У Міная пачало нервова паколваць у кончыках пальцаў. «Мы ходзім сагнуўшыся, — падумаў ён, — гаворым шэптам, а яны адчуваюць сябе гаспадарамі на нашай зямлі? Не, не быць гэтаму!» І, павярнуўшыся да сваіх байцоў, ён крыху прыпадняў вінтоўку:

23

— Рыхтуйся!

Пічагураў уважліва глядзеў на паляну. Гітлераўцаў не менш тысячы. Ну, што ж, тым лепш: на нашым баку неспадзяванасць, а значыць мы зможам больш пакасіць іх.

Па загаду Міная Пічагураў і Кравец падцягнулі бліжэй станкавы кулямёт.

— Бі па гэтых, на лугу, — шапнуў ім Мінай. — Пачынаць усім зразу, па сігналу.

Ён яшчэ раз абышоў байцоў, спраўдзіў, ці ўсе гатовы, і ўскінуўшы вінтоўку, злавіў на мушку хударлявага афіцэра, які сядзеў на плашчпалатцы.

— Пачынай!

Затраскаталі вінтовачныя і кулямётныя выстралы. Па ўсёй паляне замітусіліся ворагі. Шматлікія адразу распасцерліся на зямлі. Неўзабаве трупы голых фашыстаў заслалі і бераг ракі. Але раптам кулямёт змоўк.

— Што здарылася? — павярнуўся Мінай да Краўца.

24

— Перазараджаю... Стужка не лезе! — скрозь зубы адказаў той.

— Хутчэй!

Аднак і гітлераўцы прыкмецілі, што агонь партызан аслабеў і выкарысталі гэта. Над галавамі партызан засвісталі кулі ў адказ. Разарвалася першая міна.

— Немцы з левага фланга! — крыкнуў Гуськоў. — Нас акружаюць!

За карчамі арэшніка паказаліся фігуры фашысцкіх салдат. Яны перапраўляліся праз рэчку і цяпер заходзілі партызанам у тыл.

Мінай зразумеў: больш марудзіць няма чаго.

Ён падаў каманду:

— Адыход, хлопцы! За мною!..

Адыходзілі хутка, працягваючы адстрэльвацца. Выстралы гітлераўцаў пачалі змаўкаць, а неўзабаве і зусім змоўклі. Ім цяпер было не да партызан.

«Усё ў парадку, — канчаткова вырашыў Мінай. — Экзамен вытрымалі. Цяпер справы ў нас пойдуць».

(Працяг за тыдзень)

25



 

# ЛЯСНЫ ЧАЛАВЕК

Асабліва прыгожыя аколіцы і краявіды там, дзе знаходзяцца лясы. Яны чаруюць нашае вока ў любую пару: у зімні марозны дзень, калі сосны і елкі зацярушаны снегм; вясной, калі прарэзваюцца першыя лісцікі; летам, калі ўвесь лес у зяляніне, ціхі, спакойны, таямніча задуменны.

Лес — цудоўны дар прыроды, яе жывы летапіс. Аб ім пісьменнікі злажылі многа прыгожых апавяданняў, а паэты шмат захапляючых вершаў.



У лесе ля Нурца ў Сямяціцкім павеце амаль штодзённа можна ўбачыць высакарослага, чарнявага, з вусікамі чалавека, у якога на плячах вісіць вінтоўка. Гэта вядомы ўсім у ваколіцы ляснічы Эдуард Глінка. Ён ходзіць па лесе, а радасць напаўняе яго душу, калі гэты зялёны друг буйна расце, калі не нішчаць яго шкоднікі.

Эдуард Глінка добра ведае, што лес мае вялікае водаахоўнае, водарэгуліруючае значэнне, што дае асноўную базу атрымання драўніны для прамысловасці і будаўніцтва, што ён садзейнічае паўнаводдзю рэк, аслабляе сілу ветра, папярэджвае эрозію глебы, мае непасрэдную сувязь з ураджайнасцю сельскагаспадарчых культур. Апрача таго ён мае вялікае аздараўляючае і эстэтычнае значэнне, а таксама займае даволі значную ўдзельную вагу ў дзяржаўным бюджэце нашай краіны.

І вось таму ляснічаму хмурыцца твар, ахапляе яго злосць, калі час ад часу напатыкае ён на самавольную парубку. Як правіла, месцы, дзе высякаюць лес начныя зладзеі, ад парубачных рэштак не ачышчаюць. Ім на гэта няма часу. У выніку гэтага лясныя плошчы вельмі засмечваюцца. Ад гэтага не толькі расце небяспека ўзнікнення пажараў, але і ствараюцца спрыяльныя ўмовы і для рассялення шкоднікаў лесу. Таму і ноччу часта Эдуарда Глінку можна спаткаць у лесе, абыходзячага сваё лясніцтва. Ён любіць сваю прафесію і на высокім узроўні выконвае абавязкі ляснічага.

Эдуард Глінка вядомы ў Нурцы і як грамадскі дзеяч. Ён з'яўляецца старшынёю грамадскага камітэта фронту народнага адзінства. У час выбараў, як і ў час кожнай дзяржаўнай акцыі ён актыўна ўключаецца ў грамадскую працу.

Асабліва трэба падкрэсліць тое, што ляснічы Эдуард Глінка з'яўляецца вельмі добрым выкладчыкам. У Нурцы яго заўсёды партыйная арганізацыя выбірае на выкладчыка партыйнай адукацыі. (мх)

# ЗБУНТАВАНАЯ

(Працяг са стар. 1)

Вясковае асяроддзе патрабуе выканання гэтых норм, яно не паблажлівае і дыспатычнае, яно мае шмат метадаў, каб зламаць і пакараць тых, хто бунтуецца.

Трэба ж вялікай адвагі, каб збунтавацца супраць яму, каб пагарджаць яго думкамі і асудам.

З другога боку ў вёску шматлікімі каналамі пранікаюць новыя ідэі, новыя думкі і погляды.

Зараз жа за парогам вёскі пачынаецца іншы свет, які вабіць маладога чалавека ўсімі прынадамі, якія ставарае сучасная цывілізацыя.

Сутыкненне гэтых двух сіл, гэтых двух светаў і нараджае нашую «збунтаваную». Формай гэтага бунту з'яўляецца ўцёк з вёскі, штогод сотні маладых дзяўчат парывае сувязі з нашай вёскай, у белым свеце шукаючы свайго «шчасця».

Нас аднак цікавяць тыя, што асталіся ў вёсцы.

Вось яна, дзяўчына, якой мы прысвяцілі першыя радкі нашага артыкула, свой пратэст супраць акружаючай рэчаіснасці выяўляе яна ў знешняй форме сваіх паводзін, падкрэслівае яго сваім выглядам і вопраткай. Што крые ў сабе гэтая знешняя форма? Пустату і лёгкадумнасць? Гонку за плыткай эфектыўнасцю? Ці можа зрэлую жыццёвую паставу, якая вынікае з перакання ў асновы, супярэчныя акружаючаму?

Праўдападобна бывае па-рознаму. Цятулі нават пачынаюць хваляваецца.

Сарванне сямейных і суседскіх вузаў крые ў сабе патэнцыянальную небяспеку маральнага ўхібу.

Аднак цятулі не разумеюць новай сілы, якая нараджаецца — хаця з вялікімі цяжкасцямі — у нашай вёсцы, не разумеюць сувязей, якія скрапляюць новы грамадскі арганізм, які нараджаецца ў самым сэрцы традыцыйнай, устарэлай вёскі. Клубы і святліцы, маладзёжныя арганізацыі і мастацкія гурткі, асветныя курсы і самародныя сяброўскія групы — усё гэта, хаця ў многіх выпадках карлікавае і няўдалае, стварае аднак «збунтаваным» магчымасць знайсці сваё месца ў жыцці сучаснай вёскі, запаўняе грамадскую пустку, з'яўляецца ім апорай і асновай кшталтавання новай маралі.

На з'ездах, нарадах, фестынах і мерапрыемствах маладзёжных і іншых арганізацый сустракаем многа маладых дзяўчат, для якіх асяроддзе арганізацыі — іх стыхія, дзе найлепш чуюцца. Здаецца, не ўсе разумеюць вялікай ролі, якую выконваюць сёння маладзёжныя і грамадскія арганізацыі. Калі б нават не давалі яны моладзі нічога апрача пачуцця сувязі з шматлікімі, аднолькава адчуваючымі свет, «братнімі душамі», пачуцця масавасці іх парываў і ўзлётаў — гэта ўжо апраўдывала б іх існаванне.

Падарожнічаючы па вёсках, мы сустракаем многа маладых дзяўчат, якія ламяць устаноўленыя векавой традыцыяй абмежаванні іх правоў, арганізуюць розныя гурткі, у спартыўных касцюмах запаўняюць стадыёны, ездзяць на матацыклах, выступаюць на агульных сходах і г.д.

Гераіня нашых дзён — дзяўчына, якой удалося сарганізаваць моладзь вёскі, стварыць мастацкі гурток, курс, арганізацыю — аб'яднаны, устойлівы калектыў. Яе працаю ў многіх выпадках кіруюць важныя ідэйныя матывы і можа яна не мець нічога супольнага з вобразам дадзеным у пачатку артыкула. Нас, аднак, цікавіць яе вялікая роля ў фарміраванні новага духоўнага вобраза жыцця вёскі.

*

Бачу яе перад сабой — вёску маіх дум, вёску будучыні. Распасціраецца па вяршынях маіх мар, упрыгожана кветкамі векавой тугі народа, азораная сонцам светлых ідэй.

Здалёк відаць новыя школы, святліцы, спартыўныя стадыёны і прыгожыя роўныя дамы. А ў дамах людзі шчаслівыя, жыццерадасныя, у школах няма дзяцей непатрэбных, дома некаханых шчыра бацькамі.

Ведаю адно: школы і святліцы пабудуюць мужчыны, увядуць сюды новую тэхніку, аднак лад, парадак і шчасце ў гэтае жыццё ўнясе жанчына, вызваленая з вузаў традыцыйных паняццяў, традыцыйнага мыслення, традыцыйнай маралі, якія ўгрунтаваліся ў зёсцы доўгімі вякамі прыгнёту.

А пакуль што, нашымі небрукаванымі вуліцамі, пад саламянымі стрэхамі снуецца цень «збунтаванай», якая ўпершыню пачала рваць гэтыя вузы.

**РЫГОР ПАЎЛЮК**

**ДАРАГІ ЧЫТАЧ!**

У папярэднім сваім артыкуле пад загалоўкам «Калі дзяўчыне год семнаццаць» я паказаў дзяўчыну, якую вясковае асяроддзе пазбаўляе правоў маладосці, права да кахання. У гэтым артыкуле я паказаў дзяўчыну, якая ў абароне сваіх правоў бунтуецца супраць асяроддзя. Ці тваё погляды згодны з поглядамі аўтара? Ці паказаныя тут праблемы не з'яўляюцца выдуманымі аўтарам? Ці ў тваёй вёсцы ёсць такія дзяўчаты, якія паказаны ў артыкулах? Напішы аб гэтым у рэдакцыю.

Аўтар

# ПАЧАЛАСЯ СЕСІЯ

3 ліпеня пачалася летняя сесія Настаўніцкай завочнай студыі ў Беластоку. Настаўнікі пачатковых школ здабываюць паўвышэйшую педагагічную адукацыю. Сярод студэнтаў шмат настаўнікаў — выкладчыкаў беларускай мовы. Яны займаюцца на беларускай філалогіі ЗСН.

На першы курс беларускай філалогіі ў гэтым годзе прынялі 21 настаўнікаў. Пажадаем ім поспехаў у вучобе.

(мх)

# ЦІКАВЫЯ РЫСУНКІ

У Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы падрыхтавалі выстаўку мастацкіх прац вучняў. Акварэля, масла, графіка. Вельмі прыемнае аддзяленне выстаўкі, якое атрымала агульную назву — «Цікавыя рысункі».

Сярод аўтараў выстаўкі знаходзяцца тыя вучні, якія былі ўзнагароджаны на павятовай мастацкай выстаўцы прац мастакоў — аматараў у Гайнаўцы, якая нядаўна адбылася. І так, першую ўзнагароду на выстаўцы прызналі Мікалаю Давідзюку з IX кл. Ён атрымаў камплект фарбаў і альбом рэпрадукцый карцін Ван Гога. Другую ўзнагароду прызналі Олі Кардаш з VIII кл., а трэцюю ўзнагароду атрымаў Іван Копля з V класа.

Дзейнасцю маладых мастакоў - аматараў у ліцэі кіруе настаўнік Анатоль Корзун, які закончыў факультэт рысунку і ручных прац Лодзінскай Настаўніцкай Студыі.

Застаецца толькі пажадаць іншым ліцэям такіх выставак і поспехаў у эстэтычным выхаванні моладзі. (ся)

зваўся гэты хлапчук) па дарозе расказваў нам аб экскурсіях, якія арганізавалі яны разам з кіраўніком мясцовай школы Антонам Князем на ўзгорак, які мясцовыя жыхары называюць «скалой».

Дабраўшыся да мэты, мы ўбачылі велізарныя вапнажвіравыя маналіты, распалажаныя ў форме фундаментаў вялікай будоўлі, размерамі каля 30 м. шырыні і 50 м. даўжыні. У паўночнай частцы з паўночнага боку гэтага фундамента мы ўбачылі адтуліну, якая прыпамінала ўваход у падзямелле. Зваленыя глыбы робяць невялічкі грот, ад якога вядзе ў глыб падзямелля маленькі калідорчык, хутчэй за ўсё вырыты вадой. І паспрабуйце ж трапіць у падзямелле праз такі праход.



Сеў я на вялікім камені і задумаўся. Перад вачыма ўстаў велізарны замак - крэпасць з высокімі башнямі, у якім праз вокны - адтуліны, прызначаныя для стрэлаў, выглядае чуйнае вока княжаскай стражы, пільна вартуючай аколіцу ад варожага нападу. Але настала хвіліна, калі катаклізм падзей зруйнаваў магутны замак і засталіся толькі нязначныя рэшткі. Невядома, што сталася з магутным князем (а можа гэта яго патомак з'яўляецца кіраўніком мясцовай школы), а таксама з яго скарбам, можа ляжыць яшчэ і сёння пад руінамі, а можа быў забраны грабіцелямі - захопнікамі.

Паводле легенды роўна ў 12 гадзін у поўдзень, калі хто-небудзь сядзе каля заваленай адтуліны ў грот, пачуе звон, які б'е трывогу.

Старэйшыя людзі расказваюць, што ўжо ў іх бытнасць можна было знайсці велізарныя тачаныя глыбы, нагадваючыя падковы. На адной з іх, як расказваюць, быў выбіты прыгожы конь, а пад ім шабля. Побач быў подпіс, толькі невядома які.

Два з тых каменняў існуюць, мабыць, і сёння. Адзін з іх замураваны ў фундамент дома аднаго з жыхароў вёскі Сток гр. Часлава Свідра, другі — ў вёсцы Дабрынёўка, таксама ў фундаменце дома гр. Урбана.

Астатнія камні былі пераároблены ў надгробныя камні, або камні неабходныя ў гаспадарцы.

Мы не знайшлі скарбу, але зусім не шкадуем гэтага. Але калі б гэтым аб'ектам зацікавіліся археолагі, то спадзяюся, што знайшлі б сапраўдныя скарбы старой славянскай культуры.

С. Камінскі.

# „ЭРА ТРУХІЛЬАЎ"

Ноч з 30 на 31 мая стала апошняй ноччу ў жыцці дыктатара Дамініканскай рэспублікі Рафаэля Леанідаса Трухільа — ён быў забіты сваімі палітычнымі праціўнікамі. Больш трох дзесяцігоддзяў Трухільа з'яўляўся валадаром гэтай невялікай цэнтральнаамерыканскай краіны, размешчанай на востраве Гаіці ў Караібскім моры.

Смерць Трухільа выклікала непакой у афіцыйным Вашынгтоне, у дзелавых кругах Уолстрыта. Заклапочанасць кіраўнікоў амерыканскай знешняй палітыкі «вялікага бізнеса» поўнасцю вытлумачальна.

Дык на працягу ўсяго свайго панавання, якое сам дыктатар напышліва называў «эрай Трухільа», ён верай і праўдай служыў сваім гаспадарам манапалістам ЗША. Галоўнае багацце краіны — бананавыя і хлопкавыя плантацыі былі перададзены ім на водкуп амерыканскаму канцэрну «Юнайтэд фрут компаны». Амерыканскі капітал захапіў усе ключавыя пазіцыі ў эканоміцы краіны. Ён кантралюе сістэму водазабеспячэння, сродкі сувязі, шляхі зносін і многія прадпрыемствы лёгкай прамысловасці.

Для таго, каб падавіць народныя хваляванні здрадніцкай і антынацыянальнай палітыкай, Трухільа ўстанавіў рэжым жорсткага палітычнага тэрору. Турмы краіны перапоўнены. У канцэнтрацыйных лагерах мучацца тысячы патрыётаў. Трухільа выдзеліўся сваім здрадніцтвам, нянавісцю да ўсяго прагрэсіўнага і страшнай жорсткасцю. Праўленне гэтага тырана — адна з самых змрочных старонак у гісторыі дамініканскага народа. Яго імя стала сінонімам цемрашальства і насілля ва ўсёй Лацінскай Амерыцы.

Кангрэс, складзены з прыхільнікаў і сваякоў Трухільа, прысвоіў яму тытулы «Дабрадзея Айчыны», «вызваліцеля нацыі», «апекуна прыгожых мастацтваў і літаратуры». Апрача таго ён сам прысвоіў сабе ваеннае званне генералісімуса і адмірала флота. Ён загадаў іменаваць сябе «першым студэнтам», «першым лекарам», «першым настаўнікам» і гэтак далей.

Аўтар кнігі «Эра Трухільа» прафесар Галіндзес заўважыў па гэтаму поваду: «Я ўпрасціў бы ўсе тытулы Трухільа, прыводзячы іх да аднаго: «першы ўласнік Дамініканскай рэспублікі, яго маёнтак уключае ўсю краіну». Галіндзес заплаціў жыццём за сваю кнігу. Як і многія сотні іншых сапраўдных патрыётаў ён быў па-зверску забіты агентамі дыктатара.

Аднак факт астаецца фактам. Акрадаючы свой народ рука аб руку з замежнымі манаполіямі, Трухільа стаў самым багатым чалавекам краіны. Ён з'яўляўся ўласнікам 6 цукровых заводаў, яму належала больш 20 прадпрыемстваў па апрацоўцы тытуню, хлопка, землянога арэха агульнай каштоўнасцю 54 млн. 450 тыс. долараў. Апрача таго, ён быў пайшчыкам страхавых і авіяцыйных кампаній і буйнейшым жывёлагадоўцам краіны.

Багацеючы сам, Трухільа не забываў і сваіх сваякоў, многія з якіх займаюць высокія становішчы ў дзяржаўным апараце. Яго славалюбства не ведала граніц і прыймала часам трагічныя формы. Дастаткова сказаць, што калі ў 1932 годзе сыну Трухільа закончылася чатыры гады, яму было прысвоена званне палкоўніка арміі. У восем год сын Трухільа ўзнагароджваецца ваеннай медаллю, а ў дзевяць год прысвойваецца чын брыгаднага генерала. Калі малады Трухільа быў накіраваны на вучобу ў ваенную акадэмію ў Вест - Пойнте (ЗША), ён зацьміў сваімі прыгодамі самых рафінаваных прадстаўнікоў «залатой моладзі». Выключаны за непаспяховасць з акадэміі, вырладак дыктатара вярнуўся на радзіму з мільённым даўгом, які па загаду Трухільа быў сплачаны нацыянальным банкам.

Тыран Трухільа з'яўляўся апорай рэакцыі Цэнтральнай Амерыкі. Ён выступаў з пагражаючымі заявамі ў адрас рэвалюцыйнага ўрада. Яго агенты арганізавалі замах на жыццё прэзідэнта Венезуэлы Бетанкура. І нават такі залежны ад манаполяў ЗША орган, як Арганізацыя амерыканскіх краін, вымушаны быў прыняць рэзалюцыю, якая асуджае ваенна-паліцэйскую дыктатуру Трухільа. Аднак да самай смерці дыктатара гэта рэзалюцыя засталася толькі добрым пажаданнем, а замежныя дзялкі адчувалі сябе ў Дамініканскай рэспубліцы, як у сябе ў хаце.

Пасля смерці Трухільа ўзначальвае ўрад яго сын, той самы сын, якому ў чатыры гады бацька прысвоіў званне палкоўніка арміі.

## ПЕРАМАГАЮЧЫ СТЫХІЮ



Шторм... Многа няшчасцяў прыносіць ён чалавеку. У час вельмі моцнай буры ў лістападзе 1929 года ў Атлантычным акіяне загінула 600 суднаў. У Генуі 19 лютага 1953 года быў разбураны грандыёзны хвалялом даўжынёй каля 4 тысяч метраў і вышынёй у 11 метраў. Прарваўшыся ў порт, гіганцкія хвалі затапілі амаль усе параходы, якія стаялі за гэтай велізарнай сцяной.

Страшныя не толькі марскія буры, але і так званыя «цягуны», калі нябачныя падводныя хвалі раптоўна паяўляюцца ля прычалаў, у зацішных гаванях. Яны кідаюць караблі ў розныя бакі, рвуць стальныя швартавыя тросы. Выратоўваючыся ад іх, судны звычайна ўходзяць у мора.

Вывучэннем хваляванняў у морах і акіянах у СССР займаецца Дзяржаўны акіянаграфічны навукова-даследчы інстытут.

Вучоныя не толькі даследуюць хвалі, яны хочуць падпарадкаваць іх волі чалавека, утаймаваць. Блізкі дзень, калі пачнуць працаваць пнеўматычныя ўстаноўкі, якія гасяць хвалі на асобных участках бурнага мора. Ствараецца канструкцыя пнеўматычнага хвалялома.

## ЛОЖАК

Адна з лонданскіх фірм радыётэлебачання выпрадукавала нядаўна вялізны супружаскі ложак, у якім умантаваны тэлевізар, магнетафон і электрычная машынка да запаркі кавы.

Ложак каштуе 2500 фунтаў штэрлінгаў. Зроблены ложак па заказу арабскага мільянера, уласніка нафтавых палёў і вялікіх гарэмаў.



Здымак з многапакутніцкай Анголы. Партугальскія каланізатары здзекваюцца і забіваюць жыхароў Анголы толькі за тое, што гэты народ хоча жыць свабодна.

## Унікальная метэавежа

Каб разабрацца ў складаных працэсах, якія адбываюцца ў атмасферы, трэба арганізаваць сталае назіранне за ёю. Неабходна сталая завоблачная лабараторыя, нейкі зонд навечна падняты ў неба.

Распаўсюджанне большасці дыму, пылу і пары займае слой паветра да 300 метраў у вышыню. Гэта і вызначыла пабудову метэаралагічнага зонда вышынёю ў 313 метраў. Метэаралагічная вежа — гэта аўтаматычны камплекс чуллівых органаў, якія бесперапынна ўлаўліваюць найменшыя перамены тэмпературы, ціску, сырасці, шчыльнасці, складу паветра, хуткасці яго вертыкальных і гарызантальных патокаў. Яны размешчаны на ўсіх пляцоўках зонда.

Агульная колькасць рэгеструючых абсталяванняў вежы — зонда складае некалькі соцен. Унікальная метэавежа памагае вырашаць савецкім вучоным многа важных для навукі праблем.



### АБ ЧЫМ ДОБРЫ ГАСПАДАР ВЕДАЦЬ ПАВІНЕН

## ГАДОЎЛЯ ТРУСОЎ

Добры гаспадар так павінен весці сваю гаспадарку, каб з кожнага мерапрыемства мець прыбытак, чэрпаць даход. Гэткую магчымасць стварае гадоўля трусоў.

Польскія ўстановы замежнага гандлю сельскагаспадарчымі прадуктамі нядаўна падпісалі дагавор з замежнымі фірмамі на экспарт трусінага мяса. Таму зараз звяртаецца асаблівую ўвагу на развіццё гадоўлі гэтай жывёліны. Усе ПЗГС-ы і ГС-ы абавязаны весці кантрактацыю трусоў.

Трус — вядома, звярок непераборлівы, з'е ўсё, што дасі, размнажаецца, як... трус і не патрабуе грамаднага сховішча; яму хопіць збітай клеткі, якую кожны гаспадар патрапіць сам зрабіць.

Установы, якія вядуць кантрактацыю, бачылі б найбольш ахвотна гадоўлю наступных парод трусоў: бельгійскія і французскія белыя бараны ды белыя венскія (ведэньске).

Трусы прыймаць будуць усе скупачныя пункты, якія зараз прыймаюць іншую жывёліну. Цана жывога труса залежыць ад яго вагі. Калі трус важыць ад 2,50 кг да 3 кг, плацяць за яго па 21 злоты. Звыш трохкілаграмавы трус цэніцца па 23 зл ад кілаграма.

Раім гаспадарам сур'ёзна пацікавіцца гэтай справай. Гадоўля трусоў напэўна аплоціцца. Не пашкодзіла б таксама, каб школьныя ўлады абмеркавалі магчымасць абсталявання невялікіх прышкольных ферм гадоўлі гэтых мілых стварэнняў. Вучні мелі б і ўласны, супольны даход, і магчымасць практычнага стасавання вывучаных ведаў.

Па больш падрабязныя інфармацыі звяртайцеся, калі ласка, да сваіх раённых аграномаў і гээсаўскіх пляцовак.

Заахвочваем прачытаць невялічкую брашуру, якая падрабязна расказвае аб умовах гадоўлі паасобных парод. Аўтар яе: Stefan Jankowski — «Królik żywi i ubiera», PWRiL, Warszawa, 1955 г.

(вр)




Ліст з Задрыпанкі

# ХАЧУ ВАННУ

Цягу да чысціні адчуваю я ад самых маладых год. Не думайце, што хваліцца пачну сваімі якасцямі, але спытайце любога ў Задрыпанцы, хто тут у санітарных адносінах перадавіком, кожны вам скажа, што я, Даніла.

Ад гэтага ў мяне галава не закружылася, як у іншых перадавікоў. І мары ў мяне не надта высокія. Ні пад кім я не капаю ямак, на пасады не прûся. Адна мяне зайздрасць з'ядае: зайздрошчу ўсім тым, хто мае ванну.

Жывуць жа людзі! Мокнуць у ваннах, жыццём карыстаюцца.

Задрыпанцы смяюцца з мяне:

— А мо' табе і паравога ацяплення захацелася?

Паравое ацяпленне — ацяпленнем, а ванна — вялікая рэч. Купайся хоць кожную суботу, а калі не лень — то і кожны дзень. Пішуць у газетах, што настаў час паднімаць санітарны стан вёскі на належны сваёму часу ўзровень. Кажуць, людзі на вёсцы мала мыюцца, трэба каб больш мыліся. А дзе тут мыцца? Летам — у рэчцы, а зімою ў цэбэрку. Але ці ж гэта мыццё?

Так я разважаў, пакуль не даведаўся, што ў Беластоку можна жалезную ванну купіць. Якая навіна! Уласная ванна не мара, а рэчаіснасць!

Я ўжо ўявіў яе ў маёй хаце. Стаіць пасярод кухні, пар з яе падымаецца, лезь і мокні. Роскаш!

Што і гаварыць, адразу паехаў у Беласток за ваннай.

На Сенным рынку зайшоў я ў жалезную краму і выявіў свой намер прадаўцу.

— Няма ў нас ванны, — кажа ён. — Звярніся, дзядзька, да «Аргеду».

— А што гэта такое? — цікаўлюся.

— Раяводскае прадпрыемства гурта прадметаў хатняга карыстання, — адказвае прадавец. — Калёвая, 4 а. Аддзел жалезны.

Жму я ў другі канец горада пад указаны адрас, а там кажуць мне звярнуцца да Раённай гуртоўні на Усходняй шашы.

І зноў у другі канец Беластока.

— Хачу купіць ванну, — задыхаўшыся, кажу грамадзянцы з раённай гуртоўні.

Тая паглядзела спачувальна на мяне і... не, не адправіла бегчы ў новым напрамку, яна зняла тэлефонную трубку і ветліва сказала:

— Звані, дзядзька, пад 64-94.

Набраў я гэты нумар і выявіў сваю просьбу.

— 63—64, — пачуў я кароткі і загадны адказ.

Званю пад 63-64. Прыемны жаночы голас, даведаўшыся ў чым справа, кажа:

— Пераключаю.

Цяпер пачуўся голас мужчыны. Гаваркі, ён здзіўляецца, што я не ведаю, дзе купіць ванну.

— У гуртоўні. Зразумела, на Усходняй. Што, былі? Зараз пaклічу кіраўнічку.

Кіраўнічка рассеяла ўсе мае надзеі:

— Хочаце купіць ванну?

— Вельмі.

— Дык ідзіце ў краму.

— На Сенны рынак?

— Вось, вось, — сказала яна і дакорлівым тонам дадала: — Жартаўнік вы, ведаеце куды трэба звярнуцца, а звоніце да нас.

Не стаў я гаварыць ёй, што ўжо быў у гэтай краме, а ветліва папрасіў за турботы і паплёўся на вакзал.

Вось так і кончыліся мае мары аб ванне. Цяпер, калі чую аб санітарнай культуры, успамінаю свае беластоцкія прыгоды і думаю, што не паднясем мы гэтай культуры, пакуль не абяспечым вёску ваннамі.

Падумайце толькі, ГС, замест гарэлкі, прадае ванны! Рамантыка!

ДАНІЛА
Задрыпанка.




Падвязем цябе кусок, а далейшую дарогу то ўжо сам ведаеш.




— Прашу кнігу скаргаў!
— Калі ласка, вазьміце.



НА ПРАКТЫКУ Ў ВЁСКУ



— На другі раз прыдзіце са сваім малодшым братам.



У ліпеньскі дзень

## ЯК ЗАКВІЧЫЦЬ — ТО ЎЦЯЧЭ.

Маці тлумачыць Толіку, што не можна падыходзіць да Ліды, бо яна хворая, мае свінку.

— Я толькі Ліду пацалую, — кажа Толік, а як свінка заквічыць, то я хутка ўцяку.

Оля Назару
Плюцічы




## ПАЎВАР'ЯТ

Адзін чалавек прышоў да млына і пачаў перасыпаць чужую пшаніцу ў свой мяшок.

Людзі яго пытаюцца:

— Чаму ты чужую пшаніцу сыплеш у свой мяшок?

— Таму, што я паўвар'ят? — адказаў ён.

— Калі так, то чаму ж ты сваёй пшаніцы не сыплеш у чужы мяшок?

— О, тады я быў бы цэлым вар'ятам!

Ніна Алексюк
Палічна

## ПРАЦАВІТЫЯ СЁСТРЫ

Бацька прышоў з работы. Да яго падбеглі дзеці і пачалі хваліцца.

— Я вымыла ўсе паўміскі, — кажа найстарэйшая.

— А я гэтыя паўміскі клала на полку, — кажа сярэдняя.

— А я толькі выносіла ад іх асколкі, — кажа наймалодшая.

Віктар Вішнеўскі
Рыбалы

## У РЭСТАРАНЕ

Наведвальнік зайшоў у рэстаран і папрасіў падаць абед. Афіцыянтка нясе яму суп, а ён крычыць — халодны! Афіцыянтка выйшла і нясе другі раз, а ён ізноў крычыць — халодны!

— Адкуль жа вы гэта ведаеце? — пытае здзіўлена афіцыянтка. — Вы ж яго не прабавалі.

— Я бачу, калі вы несяце, то ваш вялікі палец у супе, — адказаў наведвальнік.

Ніна Янюк
Барысаўка

ГЕНАДЗЬ КЛЯЎКО

## МАТУЛЯ ДА СЫНА ПРЫЕХАЛА

Здаецца, нядаўна, здаецца, учора
Ён быў яе любкай, уцехаю.
А сёння старая матуля ў горад
Пажыць да сыночка прыехала.

Сыночак, як лялька, сыночак, што трэба,
Матулі б ім толькі і цешыцца.
Ды вырас, як кажуць, пад самае неба...
(Аб рыфму язык так і чэшацца).

Хоць часам сціскаецца сэрца матулі,
Ды з думак благое ўсё гонячы,
Маленькага ўнука іх песціць і туліць,
Пра штось з ім няспынна гаворачы.

Малы ж пасля працы бацькоў як убачыць,
Штось бабчынай мовай ляпеча ім.
Тут тата адразу сыночку зазначыць,
Маўляў, сваю мову засмечваеш.

А будзе хай суп або боршч недасолены,
Нічога не скажа ў вочы ёй.
А ўсё штось капыліцца, усё нездаволены,
Ад міскі свой нос адварочвае.

Сыночку нязвыкла, сыночку аж смешна, –
Якая з матулі кухарка тут? —
Пюрэ — ў яе каша, амлет — дык яешня,
Свінны эскалоп заве шкваркаю.

Другія вунь маці пра новую моду
Вам выступяць з цэлай прамоваю.
Яна ж вечна з хусткаю пад падбародак,
І ўсе ў яе звычкі вясковыя.

У сына душа ўжо чэрствая стала,
Забыўся пра ласку ён матчыну.
А колькі ж матуля начэй недаспала
Каб век ён не знаўся з нястачаю.

— Ідзіце, мо' разам што выпіце, з'ешце, —
Свой такт пры гасцях ён паказвае.
— Нічога, сыночак, я потым, нарэшце, —
Гаворыць матуля ў адказ яму.

Пачэснае ж месца на куце чырвоным
Спрадвеку належыць па праву ёй.
Дык хай жа няпісаным будзе законам
Святое вось гэтае правіла!